У нумары: Сустрэча з прафесарам Грабоўскім — У Беластоцкім падполлі — Весткі з БССР Фальклор

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (289) | ГОД VII | 26 ЖНІЎНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

# КАСМІЧНЫЯ БРАТЫ



Касманаўт А. Р. Нікалаеў



Касманаўт П. Р. Паповіч

### КАСМАНАЎТ А. Р. НІКАЛАЕЎ

Андрыян Рыгоравіч Нікалаеў нарадзіўся 5 верасня 1929 года ў вёсцы Шаршэлы Марыінска - Пасадскага раёна Чувашскай АССР у сям'і селяніна - бедняка. Па нацыянальнасці — чуваш.

У 1944 годзе А. Р. Нікалаеў закончыў 7 класаў няпоўнай сярэдняй школы ў вёсцы Шаршэлы. У тым жа годзе паступіў, а ў 1947 годзе закончыў Марыінска - Пасадскі лесатэхнічны тэхнікум і атрымаў спецыяльнасць тэхніка - лесавода. Са снежня 1947 года па красавік 1950 года працаваў майстрам на лесанарыхтоўках.

У 1950 годзе прызван у рады Савецкай Арміі і накіраван на вучобу ў ваеннае авіяцыйнае вучылішча. З 1955 года — ваенны лётчык.

У 1961 годзе за паспяховае выкананне задання ўрада ўзнагароджан ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1950 годзе А. Р. Нікалаеў уступіў у ВЛКСМ. Член КПСС з верасня 1957 года.

Касманаўт — халасты.

Бацька — Рыгор Мікалаевіч памёр у 1944 годзе. Маці — Ганна Аляксееўна 1900 года нараджэння. Брат — Іван Рыгоравіч 1927 года нараджэння працуе ў Кірскім леспрамгасе Алатырскага раёна Чувашскай АССР Брат - Пётр Рыгоравіч 1936 года нараджэння, калгаснік - шафёр, жыве ў вёсцы Шаршэлы. Сястра Зінаіда Рыгораўна 1932 года нараджэння працуе медыцынскай сястрой на станцыі пераліванія крыві ў горадзе Чэбаксары

### КАСМАНАЎТ П. Р. ПАПОВІЧ

Павел Раманавіч Паповіч нарадзіўся 5 кастрычніка 1930 года ў пасёлку Узін Кіеўскай вобласці ў сям'і рабочага. Па нацыянальнасці — украінец.

Вучыўся ў школе, затым у рамесным вучылішчы ў Белай Царкве. Пасля заканчэння вучылішча паступіў у Магнітагорскі індустрыяльны тэхнікум. Закончыў яго ў 1951 годзе, атрымаўшы спецыяльнасць тэхніка - будаўніка.

П. Р. Паповіч уступіў у рады Савецкай Арміі. Займаўся ў ваенным авіяцыйным вучылішчы. Пасля заканчэння яго праходзіў службу ў часцях ваенна - паветраных сіл. З'яўляецца ваенным лётчыкам.

У сакавіку 1945 года быў прынят у рады ВЛКСМ. Член КПСС з чэрвеня 1957 года.

У 1961 годзе за паспяховае выкананне задання ўрада ўзнагароджан ордэнам Чырвонай Зоркі.

Касманаўт жанаты. Жонка Марыя Лаўрэнцьеўна 1931 года нараджэння. Па спецыяльнасці — лётчык. Дачцы Наташы 6 гадоў.

Бацька — Паповіч Раман Парфір'евіч 1905 года нараджэння, працуе ў Узіне, Кіеўскай вобласці. Маці — Паповіч Феадосія Касьянаўна 1903 года нараджэння, хатняя гаспадыня. Сястра Марыя Раманаўна 1927 года нараджэння, сястра — Надзея Раманаўна 1944 года нараджэння, брат — Мікалай Раманавіч 1946 года нараджэння, брат — Пётр Раманавіч 1937 года нараджэння, ваеннаслужачы — лейтэнант.

# Калі перспектывы дык толькі «мураваныя»

Вам да Антона трэба? То ж вунь яго мураванка! — жанчына здзіўляецца.

Сапраўды.

Не гаварыў я з Антонам аб тым, як ён пабудаваў сабе зграбную мураванку, меў да яго іншую справу.

Адвячоркам выехалі на кляшчэлеўскую шашу. Вось і Сухавольцы — ёсць па дарозе такая вёска. Налева ды направа мураваныя дамы — нявыканчаныя і выканчаныя, з фіранкамі ў вокнах.

— Будуецца народ, — і чамусьці прыпомнілася мне тая старая жанчына, якая здзівілася, што не ведаю, дзе жыве Антон пасярод шэрай, саламянай вёскі.

### У «ВАЯВАДСТВЕ» НАРАКАЮЦЬ...

..., што Бельшчына і Гайнаўшчына з'яўляюцца «вырадкамі» у паслушнай сям'і рэшты паветаў Беласточчыны. Усё мала ім драўніны — каб маглі, дык заграбасталі б яе ўсю з цэлага ваяводства. У сасновых сценах жадаюць жыць. Няўжо адвечная любоў да дрымучай Белавежы?...

— Традыцыя! — інжынеры гавораць аб гэтым больш празаічна. І мораць «голадам» гэтых двух упартых блізнюкоў. А на падтрыманне ўзмацняюць, так званае прыкладнае будаўніцтва з прэфабрыкатаў. У іншых паветах будуюцца па 1—2 такіх «прыкладных» будынкаў, а тут... і па 4—5.

### НЕХАПАЕ...

...этэрністычных чарапіц хвалістых і плоскіх, пільснёвых пліт мяккіх і цвёрдых, блях. Закупіць іх можна па прыдзелу грамадскай рады нарадовай Затое іншых будаўнічых матэрыялаў — колькі хочаш! Цэгла, цэмент, вапна, пустакі Кажуць, ПЗГС-ы імі завалены так, што наперакор усякім пагаворкам і «ад прыбытку галава баліць». Нехапае набыўцаў. Мабыць, праўда.

Нехапае... добрых майстроў, дакладней, муляроў, А тыя, што ўмеюць гладкі зруб вывесці, не зусім прыдатныя. Вымуруюць, ды не вельмі дорага возьмуць... А пасля — мур халодны, сыры, «пацее» краплістай вільгаццю, у печах не напаліцца зімою. Няма лепшай ад сасновай сцяны.. Добрае, моў, заўжды дарагое! (У гэтым выпадку, дрэва).

(Працяг на стар. 4)

АЛЕСЬ ГУРЛО

## Родныя гоні

Вось яны, родныя гоні —
Радасць былая мая,
Ўспомніў яе я сёння,
Сёння яе я сваяк.

Годы мяне кружылі,
Кідалі гэтак і так. —
Кроў не астыла ж у жылах,
Ўшчэнт не змарыла слата.

Зноў я вярнуўся
к прасторам —
К родным забытым шляхам,
Мне маяком былі зоры,
Прыстаняй — хаты страха.

Шчыра яна прыгарнула
Блуднага сына - - мяне.
Усё, што было і мінула,
Стала мне ноўю звінець.

Сёння я ўсім ў захапленні,
Ўсё мне ўспамінкі нясе.
Быў я і буду сумленным
К гоням і роднай страсе.

Хіба забыць можна тое,
Тое ўсё, чым я жыў?
Речна яно, залатое,
Будзе мне голаў кружыць.

Будзе валошка ўплятацца
Густа ў бель валасоў,
Будзе заўсёды здавацца
Песняю шэпт каласоў.

Будзе ў спатканні і ростань —
Колькі іх стрэну ў жыцці —
Сніцца мне родная постаць,
Будзе валошка цвісці...

## БЫВАЙЦЕ, КАНІКУЛЫ — ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!



# ПЕРАМОГА НЕ ТОЛЬКІ КАСМАНАЎТАЎ

Вялікае ўражанне ва ўсім свеце пакінуў групавы палёт двух савецкіх касманаўтаў — маёра Андрыяна Нікалаева і падпалкоўніка Паўла Паповіча. Тэлебачанне, радыё і старонкі газет удзялілі гэтай падзеі самую вялікую ўвагу. Значэнне палёту выходзіць далёка за межы нашай планеты. І няма ў гэтым нічога дзіўнага. Незалежна ад таго, з якога пункту гледжання будзем ацэньваць гэтае савецкае дасягненне — навуковага ці палітычнага — палёт касманаўтаў мае эпахальнае значэнне.

Упершыню чалавек не толькі ўзляцеў над атмасферай, пераадольваючы зямное прыцяжэнне, але таксама знаходзіўся ў касмічнай пустаце некалькі дзён, г. зн. адрэзак часу, на працягу якога можна было б некалькі разоў зрабіць палёт на месяц. Упершыню таксама чалавек не быў ужо ў касмічнай прасторы адзінокім; ён побач сябе меў таварыша, знаходзячагася ў полі яго зроку і радыёвага слыху.

Звычайнаму чалавеку проста не месціцца ў галаве, што касмічная эра налічвае толькі каля 5 год. У кастрычніку 1957 года першы савецкі спадарожнік абляцеў нашую планету. На Захадзе дзе-нідзе ўзніmаліся галасы, што гэта толькі быў шчаслівы выпадак. Тагачасны прэзідэнт ЗША Д. Эйзенхауэр запэўніваў, што Злучаныя Штаты на працягу кароткага часу дагоняць Савецкі Саюз і апярэдзяць яго ў гэтай галіне. Тым часам мінулы перыяд не пацвердзіў слоў прэзідэнта. Савецкі Саюз не страціў сваёй перавагі ў ніякай з касмічных галін. Першы выслаў спадарожніка, першы ракетай дасягнуў месяца, першы сфатаграфаваў яго адваротны бок, першы, урэшце, выслаў чалавека, а пасля некалькі людзей на арбіту вакол зямлі. Ніхто ўжо сёння не можа расказваць казак аб нейкім шчаслівым збегу акалічнасцей. Кожнае новае касмічнае дасягненне СССР з'яўляецца наглядным вынікам планавай, загадзя акрэсленай дзейнасці. Кожны наступны касмічны палёт прыносіць новыя элементы, з'яўляецца новай стадыяй, набліжаючай чалавека да таго дня, калі будуць адбывацца міжпланетныя палёты.

Сёння таксама і для прэзідэнта Злучаных Штатаў Джона Кенедзі з'яўляецца ясным, што Савецкі Саюз мае некалькігадовую перавагу над ЗША ў касмічных палётах. Таму мы павінны сказаць выразна, што перамога савецкай касманаўтыкі мае не толькі выдатнае навуковае значэнне, але таксама і палітычнае. У падзеленым на капіталістычную і сацыялістычную часткі свеце ўсё гэта сведчыць аб рашучай перавазе сацыялістычнай сістэмы; паказвае на зусім рэальныя магчымасці ўзнікнення камуністычнага грамадства, развіваючага свае вытворчыя сілы без ніякіх абмежаванняў.

Ёсць яшчэ другі важны момант з палітычнага пункту гледжання. У той час, калі ЗША частку сваіх намаганняў у космасе прысвячаюць ваенным мэтам — напрыклад, серыя шпіёнскіх спадарожнікаў — Савецкі Саюз праводзіць усе свае працы толькі ў адным напрамку: вывучэння і апанавання сусвету толькі для гуманных і мірных намераў чалавецтва. Для кожнага зразумелымі становяцца словы звароту ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Урада Савецкага Саюза, абнародванага пасля заканчэння палёту Нікалаева і Паповіча. У гэтым звароце, у прыватнасці, чытаем: «Савецкі ўрад зноў звяртаецца да ўсіх урадаў і народаў з заклікам яшчэ больш настойліва змагацца за збаўленне чалавецтва ад пагрозы тэрмаядзернай вайны, за непарушны мір на зямлі».

Савецкія дасягненні ў галіне вывучэння сусвету набліжаюць, несумненна, дзень, калі кіраўнікі ўсіх урадаў зразумеюць, што далейшая гонка ўзбраенняў — гэта поўны абсурд.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## ВЕСТКІ з БССР

# РАЗВІЦЦЁ ХІМІЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ БЕЛАРУСІ

У стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма хімія павінна адыграць каласальную ролю. Бягучая сямігодка з'яўляецца для Беларусі сямігодкай вялікай хіміі.

Аб'ём агульнай прадукцыі хімічнай прамысловасці ў рэспубліцы ўзрасце ў параўнанні з 1958 годам у 6,5 разоў. У канцы пяцігодкі хімія ўвойдзе на Беларусі ў лік вядучых галін эканомікі. На працягу сямігодкі ў рэспубліцы будзе нанова асвоены выраб харчовай солі, віскознага корда, лакаў і фарбаў, электрамантажных трубак, брызола, рэліна, а таксама выпуск розных нафтапрадуктаў і хімічных паўпрадуктаў для далейшай апрацоўкі іх за межамі рэспублікі.

Высокімі тэмпамі будзе развівацца вытворчасць ужо асвоеных відаў прадукцыі: выраб штучнага валакна ўзрасце ў 3,2 разы, цэлафана — у 2,3 разы, рэгенерата ў 4 разы і г. д.

Першачарговае значэнне мае для Беларусі стварэнне буйнай прамысловасці па вырабу мінеральных угнаенняў.

У бягучай сямігодцы Беларусь будзе прадукаваць калійныя, азотныя і фосфарныя ўгнаенні. Прадукцыя калійных угнаенняў ствараецца на базе Старобінскага месцанараджэння калійных соляў. Будова Салігорскага камбіната, як вядома, пачалася ў 1958 годзе, а ў канцы мінулага года, на дзевяць месяцаў раней тэрміну, камбінат пачаў даваць калійныя солі.

У 1962 годзе прадукцыя гэтых угнаенняў будзе павялічана больш як у тры разы. У бліжэйшы час будзе закончана будова першай чаргі абагачальнай фабрыкі. Гэта дасць магчымасць камбінату, пачынаючы з 1964 года пастаўляць для сельскай гаспадаркі ўжо не сырую соль, а высакаякасныя калійныя ўгнаенні, кармавую і харчавую соль.

У канцы мінулага года недалёка ад Салігорска пачалася будова другога такога ж калійнага камбіната.

Вытворчасць азотных угнаенняў ствараецца на базе перапрацоўкі прыроднага газа, ідучага на Беларусь з Украіны. У Гродне будуецца азотнатукавы завод, які па сваёй магутнасці будзе адным з буйнейшых у краіне.

Вельмі важнай галіной хімічнай прамысловасці ў рэспубліцы будзе перапрацоўка нафты. З гэтай мэтай у Беларусі будуецца Полацкі нафтаперапрацоўчы завод — адзін з буйнейшых у СССР і Еўропе.

Сыравінай для гэтага завода будзе нафта з усходніх раёнаў СССР — Татарскага і Куйбышаўскага месцанараджэнняў, якая па магістральнаму нафтаправоду прыдзе ў Полацк.

Сваю першую прадукцыю завод пачне даваць на пачатку 1963 года, яго магутнасць будзе няўхільна ўзрастаць. Завод поўнасцю забяспечыць Беларусь усімі відамі вадкага паліва, бітумамі, мінеральнымі змазачнымі масламі, парафінамі. Прадукцыя гэтага прадпрыемства пойдзе за межы рэспублікі: у Прыбалтыку, Украіну і РСФСР, а таксама ў сацыялістычныя краіны.

Апрача свайго асноўнага назначэння па забеспячэнню народнай гаспадаркі высакаякаснымі нафтапрадуктамі, завод будзе таксама базай сыравіны для шэрагу хімічных прадпрыемстваў сінтэтычных матэрыялаў.

Цэнтрам нафтахіміі будзе і раён Мозыра. У канцы сямігодкі тут пачнецца будова нафтаперапрацоўчага завода, які па сваёй магутнасці будзе не меншы ад Полацкага, але трошкі з іншай тэхналогіяй.

Для патрэб прамысловасці і жыллёвага будаўніцтва рэспублікі ў лаках і фарбах будзе пабудаваны буйны лакафарбавы завод.

Яшчэ больш шырокае развіццё атрымае хімічная прамысловасць на Беларусі за бліжэйшыя 20 год у выніку выканання задач, накрэсленых новай Праграмай КПСС.

Аб'ём вытворчасці хімічнай прамысловасці ў 1980 годзе перавысіць узровень вытворчасці 1958 года ў 100 разоў. Моцна павялічыцца выраб мінеральных угнаенняў, штучнага валакна, фармавых і нефармавых гумоватэхнічных вырабаў.

У выніку выканання перспектыўнага плана развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі, хімічная прамысловасць стане вядучай галіной агульнай вытворчасці Беларусі.

**А. ЦІХАНАЎ**
**выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення хімічнай прамысловасці Савета Народнай Гаспадаркі БССР.**

# ФУТБОЛ

**Становішча на 19 жніўня**

### I ЛІГА

| | | |
|---|---|---|
| 1. „Górnik" Zabrze | 6:0 | 11: 1 |
| 2. „Polonia" Bytom | 6:0 | 10: 2 |
| 3. „Legia" Warszawa | 5:1 | 5: 0 |
| 4. „Lech" Poznań | 4:2 | 5: 2 |
| 5. „Ruch" Chorzów | 4:2 | 5: 4 |
| 6. „Lechia" Gdańsk | 4:2 | 2: 3 |
| 7. „Zagłębie" Sosn. | 3:3 | 6: 3 |
| 8. „Stal" Rzeszów | 2:4 | 3: 3 |
| 9. „Wisła" Kraków | 2:4 | 4: 5 |
| 10. „Odra" Opole | 2:4 | 3: 5 |
| 11. „Pogoń" Szczecin | 2:4 | 5: 8 |
| 12. „Arkonia" Szczecin | 1:5 | 3: 9 |
| 13. „Gwardia" W-wa | 1:5 | 2:10 |
| 14. ŁKS Łódź | 0:6 | 1: 9 |

### III ЛІГА

| | | |
|---|---|---|
| 1. „Gwardia" B-stok | 6:0 | 19: 3 |
| 2. „Mazur" Ełk | 6:0 | 18: 2 |
| 3. ZKS Zambrów | 4:2 | 10: 5 |
| 4. „Włókniarz" B-stok | 3:3 | 5: 6 |
| 5. „Tur" Bielsk | 3:3 | 7: 9 |
| 6. „Skra" Czarna Biał. | 3:3 | 5: 9 |
| 7. „Sokół" Sokółka | 3:3 | 6:13 |
| 8. ŁKS Łomża | 2:4 | 4: 7 |
| 9. „Wigry" Suwałki | 2:4 | 6:10 |
| 10. „Husar" Nurzec | 2:4 | 5:10 |
| 11. „Warmia" Grajewo | 1:5 | 7:12 |
| 12. „Pogoń" Łapy | 1:5 | 3: 9 |

### КЛАС «А»
### I падгрупа

| | | |
|---|---|---|
| 1. „Puszcza" Hajnówka | 6:0 | 22: 4 |
| 2. „Gwardia" B-stok | 6:0 | 16: 3 |
| 3. „Ognisko" B-stok | 6:0 | 11: 4 |
| 4. LZS Uhowo | 3:3 | 9: 5 |
| 5. „Cresovia" Siemiat. | 3:3 | 6: 7 |
| 6. LZS Szepietowo | 3:3 | 8:18 |
| 7. „Żubr" Białowieża | 2:4 | 6: 9 |
| 8. „Husar" Nurzec | 1:5 | 10:20 |
| 9. „Jagiellonia" B-stok | 0:6 | 5: 9 |
| 10. „Tur" Turośl Kość. | 0:6 | 3:17 |

### II падгрупа

| | | |
|---|---|---|
| 1. „Orzeł" Kolno | 5:1 | 11: 4 |
| 2. „Cresovia" Gołdap | 4:0 | 6: 3 |
| 3. „Mazur" Ełk | 4:0 | 6: 4 |
| 4. „Promień" Mońki | 4:2 | 6: 7 |
| 5. „Wissa" Szczuczyn | 3:3 | 8: 5 |
| 6. „Czarni" Olecko | 2:4 | 6: 5 |
| 7. „Wigry" Suwałki | 2:4 | 7: 8 |
| 8. ŁKS Łomża | 0:4 | 4: 6 |
| 9. LZS Suchowola | 0:6 | 1:13 |

## ЧЭМПІЯНАТ СССР

### I ПАДГРУПА

| | | |
|---|---|---|
| 1. ЦСКА | 25:9 | 24:8 |
| 2. «Дынама» К | 24:4 | 35:14 |
| 3. «Зеніт» | 16:14 | 27:15 |
| 4. «Шахцёр» | 16:8 | 20:15 |
| 5. «Малдова» | 16:14 | 22:19 |
| 6. СКА | 15:15 | 25:20 |
| 7. «Кайрат» | 12:14 | 12:14 |
| 8. «Лакаматыў» | 10:20 | 15:24 |
| 9. «Спартак» Ер | 9:17 | 10:24 |
| 10. «Жальгірыс» | 7:19 | 8:29 |
| 11. «Даугава» | 6:22 | 10:26 |

### II ПАДГРУПА

| | | |
|---|---|---|
| 1. «Тарпеда» М | 18:10 | 32:14 |
| 2. «Дынама» М | 18:10 | 20:12 |
| 3. «Дынама» Тб | 17:11 | 19:11 |
| 4. «Спартак» М | 16:10 | 31:17 |
| 5. «Пахтакор» | 16:12 | 16:16 |
| 6. «Нафтавік» | 14:16 | 21:19 |
| 7. «Беларусь» | 13:15 | 12:14 |
| 8. «Дынама» Л | 12:16 | 9:26 |
| 9. «Тарпеда» К | 11:17 | 16:26 |
| 10. «Авангард» | 10:18 | 11:22 |
| 11. «Кр. Саветаў» | 9:19 | 14:24 |




# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ

## Сапраўдны афіцэр фюрэра

ПЕРАКЛАЎ Хведар Асінч



— Як, па-вашаму, гер Пфайфер, мы павінны трымаць сябе на судзе? — Генрых падсеў да прапагандыста.

— А ўсё роўна, аднолькавы канец! — страціўшы ўсялякую надзею адказаў той.

— О, не, чорт вазьмі! Афіцэр арміі фюрэра павінен памерці прыгожай смерцю! Я ім даваду, як можа паміраць сапраўдны арыец, і заклікаю вас да гэтага.



— Арыец, не арыец... якое гэта можа мець значэнне цяпер?

— Вы заклікалі да іншага ў сваіх прамовах.

— Языком ляпаць, вядома, лёгка! — злосна кінуў шафёр.

Генрых падняўся, падышоў да дзвярэй і пачаў грукаць у іх нагою.

— Табе чаго? — пачуўся малаветлівы голас знадворку.

— Паклічце начальніка варты!

— Абыдзешся і без яго!

Генрых зноў загрукаў у дзверы.

— Перастань грукаць!

— Я буду грукаць, пакуль не паклічаце начальніка варты! — крыкнуў Генрых.

— Гер афіцэр! Гер афіцэр! Перастаньце, прашу вас, — шаптаў Пфайфер перапалохана, — яны нас пазабіваюць.

За дзвярыма пачуліся крокі, нехта пачаў адмыкаць замок, і на парозе з'явіўся Мельнікаў у суправаджэнні яшчэ аднаго макі.

— Чаго табе? — спытаў начальнік штаба.

— Можаце нас судзіць, можаце пасля суда рабіць, што вам спадабаецца, але зараз здзекавацца над намі не маеце права! — ледзь не крычаў Генрых.

— Хто ж над вамі здзекуецца?

— Ад учарашняга вечара нам не далі ні кроплі вады, ні кавалка хлеба! Дагэтуль рук не развязалі!



— На той свет прымуць і з парожнім пузам!

— Я вымагаю — вады, хлеба і сігарэт! — крычаў Генрых.

— Чаго раскрычаўся? — Мельнікаў, сціснуўшы кулакі, падступіў да Генрыха. — Марш на сена! — гукнуў ён і неспадзявана штурхнуў палоннага.

Генрых упаў.

У той жа момант ён зачапіў правай нагой начальніка штаба, а левай штосілы ўдарыў яго ніжэй калена. Гэта быў адзін з прыёмаў джіу-джіцу, якім добра валодаў Генрых.

Мельнікаў упаў, бы падкошаны. Макі, што суправаджаў начальніка штаба, падбег да Генрыха і з сілай штурхнуў прыкладам у грудзі. «Гэта ўжо звыш праграмы!» — падумаў Генрых.

— Ну, пачакай, я табе адудзячуся! — сказаў Мельнікаў і выйшаў.

Генрых падняўся, падышоў да дзвярэй і зноў ударыў у іх нагою.

— Бога радзі! Сядзьце! — скуголіў Пфайфер.

— Я не супакоюся, пакуль не даб'юся свайго!

Неўзабаве палонныя атрымалі ежу. Калі пад'елі, Генрых спытаў Пфайфера:

— Ну што, палегчала крыху?

— Я вас умаляю, не трэба іх больш дразніць! — прасіў прапагандыст.

— Гэта толькі пачатак, пабачыце, як я пакажу

# СУСТРЭЧА З ПРАФЕСАРАМ ТАДЭУШАМ ГРАБОЎСКІМ



**На здымку: Праф. др Тадэуш Station Станіслаў Грабоўскі.**

Польскае славяназнаўства мае ў асобе свайго выдатнага прадстаўніка, прафесара Ягелёнскага універсітэта Тадэуша Станіслава Грабоўскага сур'ёзнага даследчыка ў галіне польска - беларускіх літаратурных узаемаадносін. Гэты факт выклікаў увагу «Нівы» да дзейнасці вучонага. А спроба, каб наладзіць з ім нейкія кантакты, неўзабаве ператварылася ў ажыўленую перапіску. З яе мы даведаліся аб вельмі прыязных адносінах Т. Грабоўскага да нашага часопіса, якога пастаянным чытачом ён з'яўляецца. Асабліва ў дні святкавання 80-годдзя з дня нараджэння Народнага Паэта Беларусі Янкі Купалы рэдакцыя атрымала шэраг цёплых пісем. Адзначым, што польскі вучоны добра памятае першыя літаратурныя крокі аўтара «Паўлінкі», а ў сваіх лекцыях аб Беларусі, яшчэ ў дарэвалюцыйны час, часта прыгадваў вытрымкі з яго твораў, адлюстроўваючых тагачаснае гаротнае жыццё беларускага народа. У 12 нумары «Нівы» ад 25 красавіка г.г. мы мелі ўжо аказію прысвяціць кракаўскаму даследчыку ўвагу. Там, менавіта, абмяркоўвалася праца праф Грабоўскага аб 40-ых і 50-ых г.г. XIX ст. у гісторыі польска - беларускага літаратурнага зближэння. Яна, як вядома, была змешчана ў «Памятнай кнізе», выданай з выпадку 50-годдзя навуковай дзейнасці Станіслава Пігоня.

У ліпені мне давялося пабываць у праф. Грабоўскага ў Кракаве, дзе ён пастаянна пражывае. Сустрэча з вучоным была тым больш прыямнейшай, што ён у адным са сваіх апошніх лістаў, ідучы насустрач нашым жаданням, выказаў таксама жаданне пагаварыць з намі, як даслоўна адзначаў, «аб нашых супольных справах». Зразумела, што тут мелася на ўвазе сувязь Т. Грабоўскага з Беларуссю, яго даследы над узаемаадносінамі паміж польскай і беларускай літаратурамі. А «Ніва», удзяляючы самую сур'ёзную ўвагу гэтым узаемаадносінам, лічыла вельмі карысным правядзенне падобнай сустрэчы. Перыяд водпуснаў звычайна спрыяе такім мерапрыемствам. Аднак, як аказалася, праф. Грабоўскі і зараз напружана працуе. Яго турбуюць шматлікія справы. Падрыхтоўка да святкавання 600-годдзя заснавання Ягелёнскага універсітэта, да адзначэння Тысячагоддзя Польшчы, захады, звязаныя з ўзнаўленнем «Бібліяграфіі польскага славяназнаўства» — усё гэта не спрыяе спакойнаму адпачынку. А што ў нашым выпадку найбольш знамянальнае, гэта, менавіта, тое, што зараз вучоны падрыхтоўвае да друку манаграфію, прысвечаную польска - беларускаму пагранiччу. Да яе мы яшчэ вернемся. А зараз хочам бліжэй пазнаёміць нашых чытачоў з польскім вучоным.

Прафесар Тадэуш Грабоўскі нарадзіўся ў 1881 годзе. Вышэйшую адукацыю здабываў на філасофскім аддзяленні Ягелёнскага універсітэта ў Кракаве і часткова ў Празе, Загрэбе і Вене, дзе ў 1910 годзе атрымаў ступень доктара філасофіі. У 1907—1918 г.г. працаваў у кракаўскіх сярэдніх школах, а таксама выкладчыкам чэшскай і серба-харвацкай моваў у Ягелёнскім універсітэце. У гэты перыяд Т. Грабоўскі адбыў цэлы рад падарожжаў па Чэхаславакіі, Лужыцах, Паўднёвай Славяншчыне, наведваў Расію, Беларусь і Украіну. Падчас падарожжаў знаёміўся з гісторыяй гэтых краін, з іх літаратурным і наогул культурным рухам. А наладжаныя знаёмствы з мясцовымі пісьменнікамі і літаратурнымі крытыкамі аказалі пазней дабратворны ўплыў на навуковую і грамадскую дзейнасць вучонага.

Пасля першай сусветнай вайны Т. Грабоўскі спярша з'яўляўся паслом у Балгарыі, а пасля на працягу 11 год быў паслом і паўнамочным міністрам у Бразіліі. Напярэдадні на-

(Працяг на стар. 4)

## У БЕЛАСТОЦКІМ ПАДПОЛЛІ

У былой сядзібе «Грамады» пры вуліцы Віцебскай 12 зімою 1927 года адбылася нарада беларускага актыву, з удзелам былых грамадаўцаў. Прыбылі дзеячы з Гарадка, Міхалова, Пясчанікаў і другіх мясцовасцей Беласточчыны.

Вырашана было арганізаваць Таварыства Беларускай Школы. Старшынёю выбралі Федарчука, Алеся Матранчука сакратаром і скарбнікам Ёзіка Лукашыка. Антон Кавальчук узяўся арганізаваць хор, а Алесь Андрэйчук — драматычны гурток.

Ды бяда — ніхто з беластоцкіх дамаўласнікаў не згаджаўся наняць Таварыству памяшканне (баяліся паліцэйскіх рэпрэсій).

Дзейнасць замерла. Акруговы Камітэт КПЗБ быў занепакоены: трэба неадкладна выясніць сітуацыю!

Кватэра Кастуся Сідаровіча знаходзілася пры вуліцы Касцельнай 4. Сымон Кузьмін і Віктар Казлоўскі нецярплівіліся. Нарэшце! Уваходзяць Алесь Матранчук, Ёзік Лукашык і Федарчук.

— Не бачу ніякіх магчымасцей далейшай дзейнасці, — кажа Матранчук. — Самі ведаеце...

Віктар нервова зацягнуўся папяросаю.

— Я адмаўляюся ад сваёй функцыі, — у Федарчука дрыжэлі рукі. — Буду дапамагаць у меру сваіх сіл, але...

Паліцыя запалохала. Кузьмін быў упэўнены ў гэтым.

Канец размовы. Вышлі.

— На гвалт патрэбна памяшканне Таварыству,

## Як арганізавалі ТБШ

— Сымон паглядзеў на гадзіннік і заспяшаў да выхаду.

— Так... — Віктар аб нечым думаў.

Тэвель Сланімскі нічым не рызыкаваў. — Калі ласка, — ветліва ўсміхаўся да Кузьміна. Мой магазін пры Касцельнай вуліцы і так пустуе. Можаце рабіць у ім, што хочаце.

Пару злотых аплаты прыдасца. Вядома, магазін не тэатральная зала. На паліцыю можна напляваць.





Білет ТБШ.

Перш за ўсё было наладжана некалькі выездаў з «прадстаўленнямі і музыкамі». Здабыта першыя сумы грошай — на пабудову сцэны, унутраную аддзелку, мэблёўку і г.д. Прыступілі да рамонту тэвелевай рудэры, у чым шмат дапамог Кастусь Сідаровіч — не толькі сваёй сілай.

Вясною 1928 года адбыўся Акруговы З'езд Таварыства Беларускай Школы, гэтым разам ва ўласным будынку. (Сланімскі падпісаў умову на 5 год). Прыбыў з Вільні сакратар Галоўнай Управы ТБШ Рыгор Шырма і дзеячы — Паўловіч, Стэцкевіч.

— Сябры! — Кузьмін хваляваўся. — У нашай працы трэба быць упартым. Выганяюць цябе праз дзверы дык уваходзь акном! Год таму назад не мелі нічога, а цяпер бачыце, ёсць дзе праводзіць беларускую дзейнасць. Наперакор жаданням нашых ворагаў...

Выбары новага праўлення прайшлі хутка і аднагалосна.

— Вось і маем гатовае праўленне, — сказаў Шырма і зірнуў убок Кузьміна і Сідаровіча.

Сымона Кузьміна выбралі старшынёй Акруговай Управы ТБШ; сакратаром — Кастуся Сідаровіча, скарбнікам — Мікалая Грыцука.

Аб ТБШ загаварылі ў Беластоку і на правінцыі.

* ✲ *

Падрыхтоўка да сустрэчы Першамая ў разгары. І тут нечаканы арышт.

— Няўжо распрацавалі кантакты, — Сымон яшчэ і — яшчэ раз перадумоўваў усе факты.

У дэфе сустрэў яго гоман дзесяткаў арыштаваных — левых ППС-аўцаў, бундаўцаў. Разам

(Працяг на стар. 7)

## Фальклор Беласточчыны

# ЖЫВАЯ ВАДА

**(КАЗКА)**

Жыла - была ў адным сяле ўдава. Мела яна трох сыноў. Старэйшы сын арганістам быў. На арганах у касцёле спрытна іграў ,а яшчэ спрытней па калядзе ад прыхаджан сабе грошы выбіраў. Сярэдні сын паляўнічым быў. Днямі і тыднямі ў лесе прападаў, дарогі за звярамі праставаў. Вядома ж, хто дарогі праступе, той дома не начуе. Малодшы сын гаспадаром быў. Дзень-у-дзень на гаспадарцы да сёмага поту працаваў: араў, сеяў і касіў. Старую матку і братоў сваіх карміў - паіў. Няўдзячныя старэйшыя браты ім пагарджалі і насміхаліся.

Аднойчы захварэла маці - ўдава. Засумавалі сыны, а больш за ўсіх сумаваў малодшы сын. У той час за цёмным лесам - борам жыла старэнькая бабулька, якая многа год на свеце пражыла і многа ведала. Часам у бядзе - хваробе лекавым зёлкам памагала людзям, часам шчырым сэрцам - радай у няшчасці чалавеку пасобіла. І пабег малодшы сын чорнай ноччу за цёмны лес - бор па бабульку, каб у бядзе дапамагла. Прывёў яе ў хату. Глянула бабулька на хворую, паківала сівенькай галавой ды кажа:

— Памерла ваша маці-гаротніца...

Заплакалі сыны па сваёй маці любай, загаласілі. А больш усіх смуткаваў па сваёй маці малодшы сын. Пашкадавала бабулька сыноў - сірот, падумала ды кажа ім:

— За сямю высокімі гарамі, за сямю непраходнымі лясамі, за сямю рэкамі глыбокімі і бурлівымі стаіць высокая гара. Расце на той гары залатое дрэва. Сядзіць на тым дрэве сокал і ўвесь час песні пяе ды

(Працяг на стар. 4)

сябе на судзе! А цяпер я паспрабую заснуць і раю вам зрабіць тое самае.

Генрых прымасціўся на саломе і неўзабаве заснуў спакойным сном.

Адвячоркам усіх зноў выклікалі на допыт. Пфайфера і шафёра хутка адпусцілі, допыт жа Гольдрынга затрымаўся шмат даўжэй. Ён трываў роўна столькі, колькі трэба было, каб канчаткова ўдакладніць дэталі распрацаванага плана.

Пасля допыта ўсім палонным завязалі вочы, пасадзілі ў машыну і кудысьці павезлі.

Ехалі гадзіны дзве. Нарэшце машына спынілася каля нейкага будынку. У цемры вымалёўваліся толькі яго невыразныя контуры. Усіх увялі ў памяшканне і развязалі вочы. Палонныя цяпер убачылі не больш, чым тады, калі ў іх на вачах былі павязкі.

— Майн гер! — прашаптаў Генрых, — калі нас вязлі сюды, мне пашчасцілася развязаць рукі. Зараз я развяжу іх і вам. Відавочна, гэта апошні прыпынак на нашым шляху да... смерці. І я паспрабую іх адурманіць. Я папрашуся ў інтымных справах на панадворак, а калі мяне вывядуць, паспрабую ўцячы. Калі пашчасліўціцца, зраблю ўсё магчымае, каб выратаваць вас.

Генрых развязаў рукі шафёру, потым Пфайферу. Той усім целам трэсся.

172

— Калі вы ўцячэце, яны нас пазабіваюць без суда! — войкнуў ён і схапіў Генрыха за рукаў. — Я не пушчу вас, я не дазволю рызыкаваць нашым жыццём!

— Ды годзе табе скуголіць! — умяшаўся шафёр, схапіўшы Пфайфера за плечы. — Мы трацім адзіную надзею!

Ён адцягнуў прапагандыста далей ад дзвярэй і закрыў яму рот рукою. Генрых, як і днём, у хляве, грукнуў ў дзверы нагою.

— Чаго табе? — пачуўся голас Мельнікава.

— Пасля вашага пачастунку ў мяне баліць жывот, чорт вас усіх забяры! — крыкнуў ён.

Мельнікаў вылаяўся, але дзверы адчыніў. Нехта зашоў ў памяшканне і вывеў палоннага на панадворак.

Пфайфер і шафёр, спыніўшы дыханне, напружылі слых. Але наўкола ўсё было ціха.

І толькі хвілін за пяць пачуліся крыкі.

— Стой! Лаві!

Адзін выстрал, кулямётная чарга. І ўсё сціхла.

...Калі начальнік шостага штуцпункта лейтэнант Швайцер убачыў знаёмага яму Гольдрынта, ён жахнуўся: з падбітым вокам, з акрываўленымі рукамі, Генрых мала нагадваў таго афіцэра для даручэнняў, якога не раз даводзілася бачыць лейтэнанту ў штабе.

173

— Звяжыце мяне са штабам дывізіі! Неадкладна! — загадаў Гольдрынг.

Лейтэнант выклікаў штаб.

— Гаворыць обер-лейтэнант фон Гольдрынг... Так, так, пра гэта потым... Не перарывайце мяне і слухайце, дарагая кожна хвіліна! Перадайце генералу, што ўсіх нас захапілі ўчора макі. Я толькі што ўцёк з палону. Гер Пфайфер і шафёр знаходзяцца некалькі кіламетраў ад шостага штуцпункта. Раніцай іх маюць расстраляць. Я прашу неадкладна прыслаць роту егераў. Дарогу я ведаю, павяду сам.

Рота егераў прыбыла за сорак пяць хвілін. Разам з ёю на машыне Генрыха, якую вёў Курт, прыехаў і Лютц.

Прывыкшыя да аперацый у горах, егеры ішлі хутка. Калі да вёскі засталося метраў пяцьсот, Генрых падаў каманду і ўзводы рассыпаліся ланцугом. Тут жа застракаталі партызанскія кулямёты. Генрых залёг побач Лютца.

— Злева, перабежкамі, наперад! — аддаў ён каманду.

Калі хвілін за дзесяць рота егераў з крыкам уварвалася ў невялічкую вёску, там не было ніводнай душы.

(Працяг на стар. 7)

174

# З жыцця нацыянальных меншасцей у Польшчы

## Культурна-асветная дзейнасць УГКТ

Украінскае грамадска-культурнае таварыства вядзе 27 самастойных культурных цэнтраў. 15 з іх знаходзіцца на вёсцы. Найбольш святліц УГКТ у Вроцлаўскім ваяводстве. Кожная святліца мае радыёапарат з адаптарам, частка з іх мае магнетафоны, музыкальныя інструменты, народныя ўборы. У 6-ці святліцах ёсць тэлевізары. Пры святліцах працуюць таксама калектывы песні і танца. ГП УГКТ мае на ўліку 62 мастацкія калектывы. Агулам у мастацкай самадзейнасці ўдзельнічае звыш 1200 асоб. У асноўным кожны калектыў працуе пад кіраўніцтвам прафесіянальнага дырыжора, харэографа ці рэжысёра.

У Польшчы існуе 6 падставовых школ з украінскай мовай навучання, а таксама два агульнаадукацыйныя ліцэі (Легніца і Пшэмысль). Апрача гэтага педагагічны ліцэй у Барташыцах і Настаўніцкая студыя ў Шчэціне рыхтуе кадры настаўнікаў украінскай мовы. На украінскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта вучыцца 15 студэнтаў, а ў Кіеўскім універсітэце — 12. У падставовых школах ёсць 130 пунктаў навучання украінскай мовы, якімі карыстаецца 2166 дзяцей. Агулам роднай мовы вучыцца ў Польшчы звыш 2800 украінскіх дзяцей.

Пры ўсіх культурна - асветных цэнтрах існуюць украінскія бібліятэкі (ад 50 да 2000 кніжак кожная). Таксама ў шматлікіх павятовых і грамадскіх бібліятэках ёсць украінская літаратура. Апрача гэтага ГП УГКТ наладзіла 12 бібліятэк - перасовак (30—40 кніжак кожная), якія высылае па запатрабаванню украінскага асяроддзя.

ГП УГКТ рыхтуецца да вядзення ў шырэйшых маштабах дакладаў. З вядучага актыву выдзелена група дакладчыкаў, якія ў сваю чаргу падзяліліся на 3 спецыялістычныя секцыі: гуманітарную, тэхнічную і сельскагаспадарчую.

Найбольшай перашкодай у далейшым развіцці культурна - асветнай працы сярод украінцаў з'яўляецца недахоп адпаведнай колькасці падрыхтаваных кадраў дзеячаў. ГП УГКТ намагаецца вырашыць гэтую праблему. З гэтай мэтай пры дапамозе Міністэрства культуры арганізавана ў мінулым годзе 4 курсы, на якіх падрыхтавана звыш 120 дзеячаў. Вялікі ўклад у працу таварыства ўносяць украінскія настаўнікі. Яны часта з'яўляюцца маторам усялякіх мерапрыемстваў у асяроддзі, у якім працуюць.

# Калі перспектывы дык толькі «мураваныя»

(Працяг са стар. 1)

Нараджаецца зманлівы сялянскі недавер да мурованак, які часам пахісне зарыва пажару: каб быў мур, дык сцены хаця засталіся б. Ці і ў Сухавольцах?

### ГАСПАДАР НАШ БЕДНЫ,

гаспадар наш павінен багацець — быць багацейшым. Звычайна, выпадае ў гэтым месцы ўспамянуць аб механізацыі сельскай гаспадаркі, якая дае чалавеку ашчаднасць часу, сіл - поту.

Грошы? Ашчаднасць іх можа даць, і ў першую чаргу, новае будаўніцтва. Хата, гумно, хлеў — сотні тысяч злотых. Ужыванне такіх матэрыялаў «сотні» можа паменшыць да «дзесяткаў». Не жарты! Пясок, пілавінне, гліна, вапна, гіпс, цэмент, жалеза. З іх могуць быць не толькі сцены ды сходы, але і бэлькі, столь, (полап), агароджа.

«Каб разбагацець, трэба ўмець!» Да гэтай пагаворкі патрэбна дадаць слова «умець будаваць». У мінулую зіму беластоцкія рамесніцкія курсы закончыла 356 чаляднікаў — муляроў, печнікоў, цесляроў. У тым ліку, з Бельшчыны — 6, Гайнаўшчыны — 14, Сакольшчыны — 3. Відаць, не ўсюды яшчэ чулі пагаворку...

Гневае і коле па сэрцы, калі ў фінансавым аддзеле павятовай рады збіраюцца ўчарашнія памочнікі чырвананосых, ледзь пісьменных майстроў і з набожным «дзякую» кладуць у кішэні яшчэ «цёпленькія» рэгістрацыйныя карты — «на выконыване заводу».

— А дзе ж падстава! — так аднойчы выкрыкнуў на сесіі ваяводскай рады адзін радны.

Задумаліся ўсе і, здаецца, правільна. Каб зарэгістравацца мог толькі той рамеснік, які мае кваліфікацыйны дыплом. А дазвол на будову новага дома, гумна ці... хлява гаспадар атрымае ў такім выпадку, калі павятовы аддзел архітэктуры згодзіцца на прапанаванага ім майстра. Прэч халтурку і надувальніцтва! Няхай красуецца прыгожы, мураваны, сухі і цёплы дом!

### НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ...

...мураваныя вёскі! Будаўляны калектыў — гэта група сялян, згуртаваных па ўсіх правілах арганізацыі — старшыня, сакратар, члены. Калектыўнае будаўніцтва стварае вёсцы... мураваную перспектыву. Яшчэ больш ашчаджае чалавеку валакіты па ўхабінах жыцця.

Першынство ў закупцы патрэбных будаўнічых матэрыялаў — у атрыманні пазыкі з Рольнага Банку; першынство ў выкананні павятовым аддзелам архітэктуры неабходнай дакументацыі на будову хаты, гумна. Ёсць магчымасць атрымаць да 12 тыс. злотых беззваротнай пазыкі, якую прызнае ваяводская рада з фонду страхоўкі — ПЗУ. Урэшце забеспячэнне кваліфікаванага нагляду і адпаведнымі майстрамі. Дапамога ў падборцы будаўнічых машын і абсталявання (шалёвак) у пазычальнях, якія знаходзяцца «у павеце». (У верасні адкрыюць такую пазычальню і ў Гайнаўцы. Напр., бетанярка з электрычным маторам каштуе... 300 зл. у месяц!)

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ЖЫВАЯ

(Працяг са стар. 3)

крыніцу з жывою вадою сцеражэ. А крыніца тая пад дрэвам залатым б'е. Вось як прынясеце тае жывой вады сваёй маці-пакойніцы, дык яна ўваскрэсне. Але ведайце: шлях да жывой вады вельмі цяжкі і небяспечны. Многа людзей па тую жывую ваду хадзіла, але ніхто назад не вяртаўся. Усе яны цяжкасцей спалохаліся і каменьмі - скаламі сталі. Бо нельга, ідучы па жывую ваду, страху ў сэрцы мець, збочыць з дарогі і аглядацца таксама нельга.

Сказаўшы гэта засмучоным братам, пайшла бабулька да свае хаты за лес цёмны. Пачалі браты між сабою раіцца, каму па ваду жывую ісці. Думалі - думалі, раіліся - раіліся ды сярэдні брат ім кажа:

— Не прывыкаць мне ў далёкія дарогі хадзіць, ды і да страху я прывыкшы: ісці мне па жывую ваду. Нядоўгім часам чакайце мяне.

Развітаўся ён са сваімі братамі, ускінуў стрэльбу на плячо, узяў збан на ваду і пайшоў.

Мінуў дзень і другі, мінае і трэці, а сярэдняга брата ўсё не відаць. Пахавалі матку браты ды па сярэднім брату зажурыліся. Чакалі яны чакалі ды пайшлі да бабулькі і расказалі пра сваё гора.

— Калі за сем дзён не прыйшоў, і не чакайце ўжо яго. Каменем - скалою ля гары з залатым дрэвам ляжыць ваш родны брат, — сказала ім бабулька.

Яшчэ болей засумавалі браты і пайшлі дамоў, голаў ад гора апусціўшы.

Пабедавалі браты над загінуўшым ды старэйшы брат кажа:

— Відаць, не толькі смеласць там патрэбна, але і хітрасць таксама. Пайду я па жывую ваду.

Сабраўся ён у далёкую дарогу, развітаўся з братамі ды пайшоў. Застаўся ў хаце адзін толькі малодшы брат.

Мінуў дзень, другі. Ужо і тыдзень прайшоў, а старэйшы брат усё не вяртаецца. Туга цяжкая на сэрца малодшага брата лягла. Думаў ён думаў ды сабраўся сам па жывую ваду ісці. Узяў



# СУСТРЭЧА З ТАДЭУШАМ

Працяг са стар. 3

падзення гітлераўскай Германіі на Польшчу працаваў дырэктарам Інстытута культурнага супрацоўніцтва з заграніцай. У гады вайны Т. Грабоўскаму давялося весці заняткі на т. зв. камплектах са студэнтамі канспірацыйнага Варшаўскага універсітэта. Пасля заканчэння вайны прафесар вярнуўся да дыдактычна - навуковай дзейнасці ў Ягелёнскім універсітэце.

Свой творчы шлях пачаў Т. Грабоўскі каля 1910 года. Ён асабліва заняўся літаратурным рухам у Харватыі, прысвячаючы свае даследчыя працы К. С. Гяльскаму, С. С. Краньчэвічі І. Войнавічу — аўтару вядомай «Дубраўніцкай трылогіі». На ўвагу таксама заслугоўвае літаратурны нарыс п. з. «Польскі рамантызм сярод славян.»

Падарожжа па Беларусі, у якой праф. Грабоўскі быў у 1907—1918 г.г. тры разы, сутыкнула яго з мясцовым грамадствам, з яго буйным духоўным жыццём. Ужо тады польскі даследчык быў здзіўлены невычэрпным багаццем беларускай вусна - паэтычнай народнай творчасці. Як адзначаў, неаднаразова наведваў вечарыны, дажынкі, бываў на вяселлях на Палессі. Асабліва ўрэзаліся прафесару ў памяць розныя абрадныя звычаі і народныя песні.

— Усюды, дзе б я толькі не быў, а найбольш мусіць на Палессі кідалася ў вочы страшэнная галеча; сялян проста з'ядалі хваробы, а непасільная праца гнула дугою мужыцкія спіны, — успамінае Т. Грабоўскі. Мусіць і таму, як падкрэсліваў, больш тут бытавала тужлівых, чымсьці вясёлых і жыццерадасных мелодый. У той час вучоны звярнуў увагу на паэтычную творчасць Купалы, бачачы ў ім годнага прадстаўніка свайго народа. Урэшце тагачасная польская літаратурная крытыка сачыла за творчасцю маладога песняра. Вось, напрыклад, у кракаўскім часопісе «Свят славянскі» ад 1912 г. з'явіўся цікавы нарыс В. Р. Вегняровіча пра маладую беларускую літаратуру, дзе разглядалася таксама Купалаўская паэзія. Аказваецца, Вегняровіч быў слухачом лектарата серба-харвацкай мовы, які вёў праф. Грабоўскі перад першай сусветнай вайной у Ягелёнскім універсітэце.

У пачатковым перыядзе сваёй дзейнасці, г. зн. яшчэ перад 1918 г., Т. Грабоўскі побач з вывучэннем гісторыі літаратур паўднёва-славянскіх краін займаўся даследваннем культурнай спадчыны беларускага народа. Уважліва чытаў першыя тагачасныя беларускія выданні, а сярод іх і «Нашу ніву». Знамянальна менавіта тое, што гэты часопіс уяўляў сабою для Т. Грабоўскага крыніцу доследаў над мінулым і тагачасным становішчам Беларусі. Зрэшты ўвагу вучонага прыцягвалі шмат якія іншыя публікацыі аб беларускім грамадска - культурным руху, якія змяшчаліся ў польскіх, чэшскіх і украінскіх выданнях. У 1915 г. у Пятркове праф. Грабоўскі выступіў з лекцыяй аб Беларусі, якая пазней з'явілася ў друку асобным выданнем. У сваім выступленні даследчык спыніўся над гістарычным шляхам краіны, яго культурай, літаратурай і асабліва сканцэнтраваўся над жыццём беларусаў пасля рэвалюцыі 1905 — 1907 г.г. Выступаючы ў абарону маладой беларускай паэзіі перад атакамі нацыяналістычных цемрашалаў, праф. Грабоўскі падкрэсліваў яе высокія вартасці. У словах, поўных любві да беларускага народа, разумення яго гістарычнага прызначэння так вось польскі вучоны гаварыў аб тагачаснай рэчаіснасці ў наднёманскім краі. Прыгадаю гэтае выказванне ў арыгінале, каб не пазбавіць яго вялікай паэтычнай прывабнасці: „Zaprawdę dnieje na Białorusi... Rumiana zorza wiosny złoci młodości promieniem te pierwsze, różane płatki majowego kwiecia... Wiotkie one i delikatne jak puch kwitnących jaśminów, jak mgły wiosennych obłoków... W konarach ich macierzy płynie jednak krew silna i zdrowa, — płyną soki, co przetrwały już niejedną burzę i liście swe żywiły wśród najcięższych głodów... Wichrów północy jeno nienawidzą, więc tulą i kryją swe majowe kwiaty, by podmuch brutalny gdzieś spóźnionej zimy nie zwarzył pąków, drzew nie ogołocił..."

Ва ўяўленні Т. Грабоўскага найлепшым выказнікам запаветных спадзяванняў беларусаў быў Янка Купала. Яго непахісную веру ў канчатковую перамогу справядлівасці і свабоды бачыў у поўных рэвалюцыйнага запалу вершах паэта.

Гэтае выступленне вучонага належыць да першых у польскім грамадстве галасоў, узнімаючыхся ў інтарэсах беларускага народа і таму заслугоўвае самай вялікай увагі.

Дыпламатычная служба адарвала Т. Грабоўскага на значны час ад навуковай дзейнасці. З вялікім жалем адхіліў ён у 1925 годзе прапанову кіраваць кафедрай славянскіх літаратур пры засноўваючайся ў той час Славянскай студыі Ягелёнскага універсітэта. Адчуваў, што, не маючы на працягу даў-

# Трыбуна чытачоў

## Дажынкі на Гайнаўшчыне

Як штогод, прыбліжаецца сельскагаспадарчае свята — дажынкі. Свята дажынак — гэта падсумаванне дасягненняў сельскай гаспадаркі за цэлы год. Арганізуюцца павятовыя, ваяводскія і цэнтральныя дажынкі. Цэнтральныя дажынкі сёлета адбудуцца 9 верасня на Стадыёне Дзесяцігоддзя ў Варшаве, а ваяводскія — праектуецца 2 верасня ў Элку. На свята дажынак ствараецца Камітэт Дажынак. Вось такі Павятовы Камітэт выбраны ў апошнія дні ў Гайнаўцы. У склад яго ўвайшлі прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, а старшынёй выбраны Аляксандр Хілецкі, старшыня павятовай рады. На сваім першым пасяджэнні камітэт пастанавіў, што святы дажынак у нашым павеце адбудуцца ў двух месцах: у Нараўцы (на Плянце ля станцыі) 2 верасня і ў Новаберазове 9 верасня. У гэтых мясцовасцях створаны грамадскія камітэты дажынак са старшынямі грамадскіх рад, будучых у суседстве. На пасяджэннях апрацавана праграма дажынак і вызначана, хто якое заданне павінен выканаць. Пачатак дажынак устаноўлены на 11 гадзін дня. У праграмах прадбачана кароткае прывітальнае слова гаспадара дажынак, рэферат аб дасягненнях сельскай гаспадаркі і яе развіцця ў будучым, пасля чаго гаспадар дажынак прыме дажынкавы вянок. У другой частцы праграмы будуць выступаць гурткі мастацкай самадзейнасці, а на заканчэнне адбудуцца танцы для ўдзельнікаў дажынак на спецыяльнай эстрадзе пад гукі аркестра. Побач, на пляцу, ПЗГС арганізуе выстаўку сельскагаспадарчых машын разам з іх продажам. Тут жа можна будзе ўбачыць высокапародзістую жывёлу. Адбудзецца паказ конкурсавай ворыўкі трактарам, у якой будзе ўдзельнічаць 10 трактарыстаў з сельскагаспадарчых гурткоў і ПОМаў. Для ўдзельнікаў дажынак не павінна быць недахопу ў піве, аранжадзе і канапках, таму што ПЗГС абавязаўся даставіць машыны з гэтымі прадуктамі. Адным словам, будзе дзе весела правясці нядзелю і што пабачыць. Другая справа — гэта ўдзел сялян у ваяводскіх і цэнтральных дажынках. З Гайнаўшчыны павінна паехаць 100 чалавек на дажынкі ў Элк і 100 чалавек у Варшаву. У гэтай справе грамадскія рады атрымалі ліміт вызначыць па некалькі чалавек. Справа паважная, таму што трэба вызначыць найбольш актыўных гаспадароў, якія заслугоўваюць гэтага і яшчэ не былі на дажынках.

**Аляксандр Ражкевіч**
Гайнаўка

## Школы

Многа вучняў закончыла ў бягучым годзе пачатковую школу, але не ўсім пашчаслівілася паступіць у сярэднія агульнаадукацыйныя і прафесіянальныя школы з розных прычын. І таму многія з гэтых выпускнікоў звяртаюцца да нашай рэдакцыі, каб падаць ім адрасы завочных прафесіянальных і агульнаадукацыйных школ. Вось падаем адрасы завочных прафесіянальных школ:

Zaoczne Technikum Budowlano-Drogowe, B-stok, ul. Lipowa 41.

Zaoczne Technikum Mechaniczne, B-stok, ul. Dąbrowskiego 10.

Zaoczne Technikum Ekonomiczne, B-stok, ul. Warszawska 63.

Technikum Włókiennicze dla pracujących, B-stok, ul. Mickiewicza 43.

Каб паступіць у гэтыя вышэй паданыя школы, трэба абавязкова працаваць і праца гэтая мусіць адпавядаць выбранаму напрамку навукі.

### Для спазніўшыхся

Іншых прафесіянальных завочных школ, дзе б не трэба было працаваць — няма.

Думаем, што многія з вас звернуцца да карэспандэнцыйных агульнаадукацыйных школ, адрасы якіх падаем ніжэй:

Korespondencyjne Liceum Ogólnokształcące, B-stok, ul. Ciepła 32.

Korespondencyjne Liceum Ogólnokształcące, B-stok, ul. Akademicka 2.

Korespondencyjne Liceum Ogólnokształcące, Grajewo, ul. Szkolna.

У карэспандэнцыйныя агульнаадукацыйныя школы можа паступіць кожны, хто закончыў пачатковую школу і працуе ў дзяржаўных установах або на гаспадарцы. Патрэбна толькі пасведчанне з ГРН аб працы на гаспадарцы і маёмасным стане. Могуць паступіць вучыцца у гэтыя школы і замужнія, прадстаўляючыя школе пасведчанне аб працы мужа ў дзяржаўнай установе ці на гаспадарцы. Навука працягваецца 4 гады, і ў выніку яе можна атрымаць атэстат сталасці. Як мы даведаліся, у гэтых школах ёсць яшчэ вольныя месцы. Уступныя экзамены адбудуцца 1 і 2 верасня б.г. Паданні аб прыняцці можна дасылаць да канца жніўня. Патрэбны наступныя дакументы:

1) Паданне.
2) Біяграфія.
3) Метрыка нараджэння ці замужаства.
4) Пасведчанне аб заканчэнні пачатковай школы.
5) Пасведчанне ГРН аб маёмасным стане.
6) 2 фатаграфіі.

Усім, хто хоча вучыцца, раім скарыстаць.

(НА)

## Змяняецца вёска

Вёска Дубічы Царкоўныя, Гайнаўскага павета, з кожным месяцам змяняе свой выгляд. Ужо хутка адкрыецца новая мураваная крама і пачнецца пабудова рамізы са святліцай. Таксама і гаспадары будуюцца. Штораз больш новых дамоў і гаспадарчых будынкаў. Адным словам, вёска мяняе свой выгляд.

**Мікола Корх**
Дубічы Царкоўныя

## У Багушоўскім багне перастане палохаць

Вёска Багушы, што непадалёку павятовай Саколкі, знаходзіцца у балоцістай мясціне, парэзанай мулістымі ручайкамі, азяркамі.

У апошнія гады прыйшла чарга на меліярацыю і гэтай «тапеліцы». На бягучы год прадбачана асушка 125 гектараў, а таксама поўнае загаспадараванне 300 гектрараў раней мелііраванай сенажаці.

Упарадкаванне Багушоўскага балотнага камплексу не абыдзецца танней, чым у 3 мільёны злотых.

(ся)

## Вельмі важнае мерапрыемства

5 жніўня ў Ляўкове на вясковы сход сабраліся не толькі жыхары гэтай вёскі, але і суседніх вёсак. На сход прыехалі прадстаўнікі павятовых улад з Гайнаўкі. Абмяркоўвалася вельмі важная справа для цэлай аколіцы.

Рака Бабро́ўка амаль штогод восенню выступае з берагоў і пад вадою застаецца зімаваць сена. А ў рацэ Нараўцы вада займае толькі дно, і летняе сонца без пары паліць тутэйшыя сенажаці. Вады тут штогод недастае. Тут неабходна ставіць плаціны, каб павысіць узровень вады. Вырашана даць прыродзе бой.

Сход пастанавіў стварыць меліярацыйную суполку пад назвай «Ляўкова» з сядзібай у Старым Ляўкове. Ужо ў наступным годзе на рацэ Бабро́ўцы пачнуцца першыя меліярацыйныя працы. На Нараўцы пачнуцца яны год пазней. Гэта яшчэ адно вельмі важнае і неабходнае мерапрыемства ў нашай аколіцы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

# КІНО

## ПРАГРАМА на 26.VIII — 2.IX.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Drzwi stoją otworem" (czeski), 30.08—2.09. „Król strzelców" (czeski), 28—30.08.

**Навасады**
„Czas przeszły" (polski), 1—2.09.

**Нараў**
„Czas przeszły" (polski), 1—2.09.

**Нараўка**
„Kwiecień" (polski), 1—2.09.

**Чаромуха**
„W .I. Lenin" (radz.), 28—30.08. „Rancho Texas" (polski), 31.08.—2.09.

**Чыжы**
„Drugi człowiek" (polski), 29.08.—2.09.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
;,Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 29.08.—2.09.

**Бранск**
„Pragnienie" (rumuński), 28—30.08. „Jutro premiera" (polski), 31.08.—2.09.

**Гродзіск**
„Trzy kwiaty" (polski), 1—2.09.

**Орля**
„Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 29.08—2.09.

**Райск**
;,Dowidzenia do jutra" (polski), 29.08—2.09.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 28.—30.08. „Dwaj panowie N" (polski), 31.08—2.09.

**Міхалова**
„Przeciwnicy" (węgierski), 28—30.08. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 31.08—2.09.

**Супрасль**
„Wszędzie ludzie żyją" (radziecki), 28—30.08. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 31.08—2.09.

**Чорная Беластоцкая**
„Mali muszkieterowie" (radz.), 28—30.08. „Warszawska premiera" (polski), 31.08—2.09.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Przeciwnicy" (węgierski), 28—30.08. „Rancho Texas" (polski), 31.08—2.09.

**Нурэц**
„Wielki balet w Ameryce" (radz.), 28—30.08. „Jutro premiera" (polski), 31.08—2.09.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Światła na biegunie" (radz.), 28—30.08. „Rzeczywistość" (polski), 31.08—2.09.

**Сухаволя**
„Człowiek z za biurka" (włoski), 28—30.08. „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 31.08—2.09.

**Шудзялава**
„Zaduszki" (polski), 29.0.8—2.09.

**Янаў**
;,Czekajcie na listy" (radz.), 28—30.08. „Kwiecień" (polski), 31.08—2.09.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Wyrok" (polski), 1—2.09.

**Ружаны Сток**
„Krzyż walecznych" (polski), 1—20.9.

---

(Працяг са стар. 3)

Генрых і Лютц падбеглі да мураванага хлява, збілі замок.

— Гер Пфайфер, вы жывы? — гукнуў Генрых.

Лютц уключыў ліхтарык. Прыціснуўшыся адзін да аднаго, у кутку сядзелі шафёр і непрытомны ад страху прапагандыст.

— О, гер обер-лейтэнант! — нарэшце прышоў да сябе Пфайфер і ўпаў на грудзі Генрыха.

Лютц і Генрых вывелі Пфайфера на паветра. Побач вялікіх дзвярэй, з якіх яны толькі што вышлі, былі меншыя, адкрытыя насцеж. Лютц заглянуў туды, бліснуў ліхтарыкам і ўскрыкнуў. Генрых падбег да яго. Блізка парога ляжала Берціна Граўзамель.

— Мёртвая! — сказаў Лютц, які нахіліўся над трупам.

— Магчыма, наша куля яе і забіла! — кінуў Генрых.

— Прынамсі яна памерла з годнасцю! — пачуўся з-за спіны густы бас Пфайфера. Адчуўшы, што знаходзіцца ў бяспецы, ён хутка прышоў да сябе і цяпер трымаўся, як заўсёды.

175

У Сан-Рэмі ўратаваныя палонныя прыбылі на світанні. Перавязаўшы ў бальніцы рукі, Генрых пайшоў у гасцініцу і адразу заснуў. Спаў ён доўга, моцна і спакойна. Ён не чуў, як да яго заходзіў Мілер, як намагаўся разбудзіць яго Лютц, калі прышоў час ісці ў казіна абедаць. І, магчыма, што гэтак было лепш. Бо нават вытрымкі Генрыха не хапіла б, каб спакойна выслухаць расказ Пфайфера пра іх гераічныя паводзіны ў палоне макі. Аднак трэба быць справядлівым: Пфайфер на першае месца высунуў обер-лейтэнанта фон Гольдрынга. У расказе гебельсаўскага прапагандыста Генрых выглядаў як казачны герой, што, лежачы звязаным, збіў з ног некалькі макі, голымі рукамі перадушыў ахову і ўвесь час паводзіў сябе, як стопрацэнтны арыец, сапраўдны афіцэр непераможнай арміі фюрэра.

У гэты дзень было выпіта шмат тостаў за здароўе Пфайфера і бясстрашнага фон Гольдрынга. Асабліва цешыўся Мілер. Дык не ляжы ён у бальніцы, яму б давялося ехаць сустракаць знатнага госця, вось жа і ляжаць зараз замест Заўгеля ў магіле на цэнтральнай плошчы Сан-Рэмі...

(Працяг за тыдзень)

176

## Як арганізавалі ТБШ

(Працяг са стар. 3)

каля сотні асоб. Супакоіўся. Значыць, арышт прафілактычны — от, на ўсякі выпадак.

Раніцай далучылі да вялікай групы падазроных і пад канвоем завялі да камеры, што знаходзілася ля вакзала. Сілком уціснулі ў шчыльны натоўп арыштаваных. Зачыніліся цяжкія дзверы. Духота, смурод. Можна толькі стаяць — адзін пры другім. Спалі на змену. І так цэлых шэсць дзён...

На сёмы дзень вярнуўся дамоў.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesiecznie — 2.40 zł. kwartalnie — 7,20 zł. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Błtk F-3

